

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 514 Лістапад 2005 г.
Год выданьня 56

## Дэлегацыя Рады БНР у ЭЗ

Упачатку кастрычніка дэлегацыя Рады БНР адведала шэраг установаў Эўразьвязу (ЭЗ) у Брусэлі. Галоўнаю нагодаю было нядаўна пашыранае зацікаўленьне ў Эўропе да палітычнай сытуацыі ў Беларусі. Як ведама, Беларусь цяпер мяжуе з новымі сябрамі ЭЗ, Польшчаю, Летувою і Латвіяй. Дэлегацыю ачольвала Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла пры ўдзеле сяброў Прэзыдыюму Сяргея Навумчыка з Чэхіі, Вячкі Станкевіча з ЗША, Янкі Жучкі з Бэльгіі й Міколы Пачкаева з Вялікабрытаніі. Неабходная была арганізацыйная праца Яна Чурыловіча, супрацоўніка штабу аднаго з віцэ-прэзыдэнтаў Эўрапарлямэнту, ды актывістаў беларускай грамады ў Бэльгіі.

Перад тым як перайсьці да падрабязнасьцяў, зьвязаных із рознымі спатканьнямі, крыху інфармацыі пра даволі складаныя структуры Эўразьвязу, пра якія шмат пішацца ў прэсе, аднак у канкрэтный дзейнасьці якіх мала хто арыентуецца. Палітычную лінію вызначае Рада ЭЗ, прэзыдэнцтва якой мяняецца штопаўгоду паміж кіраўнікамі ўрадаў сяброў ЭЗ. Цяпер ім зьяўляецца брытанскі прэм'ер-міністар Тоні Блэйр. Сталую функцыю Генэральнага сакратара займае дасьведчаны палітык гішпанец Ксавер Салона.

Выканаўчую ролю адыгрывае Эўрапейская Камісія, замежную дзейнасьць якой ачольвае цяпер былая міністар замежных справаў Аўстрыі Бэніта Фэррэра-Вальднэр. Дагляд за праектамі ЭЗ і за адпаведным выкарыстаньнем сродкаў выконваецца ўстановаю Эўрадапамога. Усе гэтыя ўстановы раскіданыя па цэлым Брусэлі, як і розныя камітэты і канцэлярыі паасобных дэпутатаў Эўрапейскага Парлямэнту. Сам Эўрапарлямэнт, бадай, самы вялікі ў сьвеце, бо ў ім больш 700 дэпутатаў, месьціцца ў францускім Страсбуры, дзе і адбываюцца пленарныя паседжаньні. Прэзыдэнтам Эўрапарлямэнту цяпер зьяўляецца гішпанец Джозэф Барэл. Другая ўстанова ЭЗ паза Брусэлем — гэта Цэнтральны банк Эўропы, які знаходзіцца ў Нямеччыне. Ёсьць яшчэ агульнаэўрапейская структура Рада Эўропы, але яна не зьяўляецца часткаю Эўразьвязу, таксама як і Арганізацыя Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе (АБСЭ) з галоўнаю кватэраю ў Вене. Да апошняй належыць Беларусь, як і азіяцкія рэспублікі былога Савецкага Саюзу і таксама ЗША.

**Заканчэньне на бачыне 2**

## Сымпозіюм па беларускай культуры



**Праф. Курт Вулгайзар і спн. Алла Орса-Романо**

У Гарвардзкім унівэрсытэце 14-15 кастрычніка сёлета прайшоў сымпозіюм, прысьвечаны пытаньням беларускай культуры, і які быў падрыхтаваны Гарвардзкім украінскім дасьледчым інстытутам, Аддзелам

**Працяг на бачыне 6**

## Віцебскі тэатар у Нью Ёрку

На сцэне Бруклінскай Акадэміі Музыкі ў Нью Ёрку 19 кастрычніка адбыўся выступ актораў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Якуба Коласа зь Віцебску. 14 і 15 кастрычніка коласаўцы далі пастаноўку ў Уотэртаўне ля Бостану ў рамках сымпозіюму па беларускай культуры ў Гарвардзе, а 17 кастрычніка выступілі ў штаб-кватэры Арганізацыі Аб'едналых Нацыяў у Нью Ёрку. Прыезд у ЗША стаў магчымы дзякуючы энтузіязму сп. Джэймса Молінсана, а таксама фінансавай падтрымцы з боку Орса-Романо Культурна-асьветніцкай фундацыі й Гарвардзкага ўнівэрсытэту.

Для паказу коласаўцы падрыхтавалі дзьве аднаактавыя п'есы: "Шагал... Шагал..." Уладзімера Драздова, і "От цо да! (Арышт)" Сакрата Яновіча.

Нацыянальны акадэмічны тэатар імя Якуба Коласа быў заснаваны ў Віцебску ў 1926 годзе на базе беларускай студыі МХАТу, выпускнікамі якой былі вядомыя акторы С. Станюта, А. Ільлінскі, А. Радзялоўская, П. Маўчанаў, Я. Глябоўская ды інш. Напачатку ён зваўся Другі Беларускі Драматычны Тэатар (БДТ-2). Літаратурным кіраўніком у БДТ-2 да арышту ў 1927 годзе быў вядомы беларускі драматург Францішак Аляхновіч. У даваенны час БДТ-2 актыўна карыстаў творы клясыкаў беларускай літаратуры — Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, Э. Самуйлёнка, П. Глебкі. Сталым творам у рэпэртуары тэатру ажно з 1940 году зьяўляецца "Несьцерка" В. Вольскага. З 1944 году тэатар носіць імя Якуба Коласа. Сёньня ў рэпэртуары — творы беларускіх і замежных драматургаў. "Чорная нявеста" А. Баркоўскага па драматычнай паэме А. Дударава "Чорная дама Нясьвіжа" была прызнаная лепшаю пастаноўкаю Беларусі 1999 году. Тэатар выступае замяжой, заваёўваў прызы на міжнародных фэстывалях і конкурсах.

Напачатку др. Янка Запруднік і сп. Сяргей Капытка коратка пазнаёмілі прысутных з гісторыяй тэатру, з акторамі і са зьместам п'есаў. Першаю пачалася п'еса "От цо да" Сакрата Яновіча, што напісаная па матывах біяграфіі выдатнага беларускага адраджэнскага дзеяча Браніслава Тарашкевіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, аўтара першай граматыкі беларускай мовы, перакладчыка Гамэра і Міцкевіча па-беларуску. Б. Тарашкевіч (1892-1938), лідар Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, старшыня ТБШ, Беларускага пасольскага клюбу і вязень польскай турмы, у верасьні 1933 году быў абмяняны Саветамі на драматурга Ф. Аляхновіча, які праседзеў 6 гадоў у лягеры на Салаўках. Праз 5 гадоў Б. Тарашкевіч быў арыштаваны як "польскі шпіён" і расстраляны ў Менску ў 1938 годзе. Дзеяньне п'есы адбываецца ў польскай і савецкай турмах, і дыялёгі зь яе пра нацыянальнае самавызначэньне для беларусаў зьяўляюцца сёньня надзвычай актуальнымі. У тэкст рэплік унесеныя алюзіі на сёнешнія падзеі ў Беларусі, цытаты з выказваньняў Лукашэнкі. Дзеяньне п'есы ня раз перарывалася аплядысьмэнтамі залі, якая зь вялікім энтузіязмам успрымала пастаноўку. Напрыканцы, калі загучаў запіс песьні "Малітва" ў выкананьні "Песьняроў", каля сцэны залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Ролю Б. Тарашкевіча выдатна выканаў артыст Валянцін Салаўёў. Запомніліся Віктар Дашкевіч у ролі п'янага камісара і Рыгор Шацько ў ролі польскага пракурора, Ірына Цішкевіч у ролі сымбалю Беларусі, і Натальля Бародзіч у ролі эратычнай судовай сакратаркі.

Пасьля перапынку гледачы паглядзелі п'есу пра віцебскія гады сусьветна вядомага мастака Марка Шагала (1887-1985), які скончыў мастацкую вычэльню Пэна, быў "камісарам мастацтваў" у часы рэвалюцыі, а другую палову жыцьця правёў у Парыжы, дзе сваім пэндзлем здабыў сусьветную славу, але ніколі не



*Сцэна з спэктаклю "Шагал... Шагал..."*

**Заканчэньне на бач. 2**

# Дзяды ў Антвэрпэне

У нядзелю 30 кастрычніка беларуская грамада Антвэрпэну адзначыла Дзяды. Перад набажэнствам у царкве група вернікаў разам з сьвятаром наведала вайсковыя могілкі ў Лювэне, дзе на магіле выбітнага беларускага кампазытара Міколы Равенскага была адпраўленая паніхіда за спачын ягонай душы і душаў усіх прашчураў-дзядоў беларускага народу. У сваёй прамове сп. Зьміцер Піменаў, старшыня Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня, адзначыў, што ў беларусаў Бэльгіі стала ўжо добрай традыцыяй ў дні ўспаміну пакаленьняў змагароў за волю



Бацькаўшчыны зьбірацца на гэтым сьвятым месцы, дзе спачывае адзін з ганаровых сыноў Беларусі. Таксама ён выказаў шчырую падзяку сп. Янку Жучку, які, ня гледзячы на недамаганьне, прыехаў памаліцца за свайго настаўніка і ўсіх калегаў, што ўжо адышлі на вечны супакой.

Напярэдадні магілка і помнік кампазытара Міколы Равенскага былі прыбраныя высілкамі антвэрпанскае грамады. Пасьля паніхіды да прысутных падыйшла сталая кабета, як аказалася ўкраінкаю з Львоўшчыны, што зь сям'ёю прыйшла адведаць сваіх родных, што таксама спачываюць на гэтых могілках. Спадарыня, якая жыве ў Бэльгіі з 1945 году, была вельмі расчуленая, бо, як яна зазначыла, за доўгія гады ўпершыню ўбачыла грамаду вакол некалі занядбанае магілы і самую магілу ў добрым стане... Некалі, прачытаўшы на помніку кірылічны надпіс, яна зразумела, што тут пахаваны "наш чалавек" і заўсёды ўзгадвала яго ў сваіх малітвах разам з сваякамі, тужачы за будучы лёс магільніка. Цяпер яна была моцна ўсьцешаная.

На магіле была запаленая зьнічка і ўскладзеныя белыя і чырвоныя кветкі – колеры нашае народнае памяці й свабоды.

Пасьля наведваньня могілак ў Беларускай царкве ў Антвэрпэне была адпраўленая Боская Літургія ў інтэнцыі ўсіх ад веку супачылых прашчураў. А пасьля Літургіі, як сымбаль вечнасьці і пераемнасьці жыцьця, у царкве адбылося вянчаньне. Сівыя Дзяды благаслаўляюць працяг роду...

***http://www.unija.info***

# Гастролі тэатру

***Заканчэньне з бачыны 1***

забываўся пра Віцебск. Складзеная зь віньетак гэбрайскага жыцьця ў Віцебску з канца 19-га стагодзьдзя і да Галакосту, п'еса "Шагал... Шагал..." выдатна спалучае паэтычнае бачаньне мастаком свайго гораду з адлюстраваньнем гістарычных падзеяў першай паловы 20-га стагодзьдзя, якія назаўсёды зьмянілі той Віцебск, які ведаў і маляваў Шагал. У п'есе актыўна выкарыстаныя гэбрайскія й беларускія народныя мэлёдыі, дзея твора ўлучае ўзаемадзеяньне гэбрайскіх і беларускіх пэрсанажаў. Цудоўна выканаў ролю Шагала артыст Генадзь Гайдук, запомніліся Тамара Скварцова (Сьцяпанаўна), Анжэла Баркоўская (маці Шагала), Юрась Цьвірка (Іван), Валянцін Салаўёў (фатограф). Фэерычна глядзеліся маленькія асьвечаныя мадэлі дамкоў і цэркваў Віцебску, якія на сцэне складалі сэнсавы і прасторавы цэнтар п'есы, і над якімі праходзілі персанажы, як быццам лятаючыя гэбраі з карцінаў Шагала.

Акторы паказалі высокі прафэсыйны ўзровень мастацтва, запамінальнай ігрой і сцэнічнымі рухамі па-майстэрску ажывілі падзеі мінулай гісторыі беларускай зямлі. Нягледзячы на зразумелыя абмежаваньні і мінімалізм сцэнічных атрыбутаў, быў створаны пераканаўчы і адэкватны настрой, які перадаўся залі, што аплядысмэнтамі не хацела адпускаць актораў. У адказ акторы падзякавалі за цёплае прыняцьце і выказалі спадзяваньне на далейшыя сустрэчы.

Заля на 200 гледачоў была поўная. Хоць імпрэзе папярэднічала рэклямная кампанія на інтэрнэце і ў расейскамоўным друку Нью Ёрку, аднак яна ня здолела ахапіць усіх патэнцыйных гледачоў, якія даведваліся аб спэктаклях назаўтра ад сяброў. Безумоўна, для прадстаўнікоў культуры з Беларусі ў Нью Ёрку ёсьць зычлівая і колькасна немалая аўдыторыя, што дае спадзяваньне на далейшыя кантакты з мастацкімі сіламі з нашай Бацькаўшчыны.

***З. МАРОЗ***



*Акторы тэатру пасьля спэктаклю ў Бостане.*

# Дзяды ў Празе

Дзень памяці продкаў – Дзяды - 2 лістапада сёлета адзначылі беларусы Прагі. У гэты Дзень па традыцыі беларусы Чэхіі прыходзяць на Альшанскія могілкі, каб ушанаваць памяць сваіх славутых землякоў, прывесьці ў парадак магілы першага Прэзыдэнта Рады БНР Пётры Крэчэўскага (памёр у 1928 годзе), наступнага Прэзыдэнта Васіля Захаркі (памёр у 1943 годзе) і вядомага беларускага опэрнага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны, на той час яшчэ Чэхаславаччына патрапіла ў зону ўплыву Савецкага Саюзу. Краіна апынулася пад прыгнётам камуна-бальшывізму. Зразумела, што тады ў пашане былі зусім іншыя героі з іншай ідэялёгіяй. І каб хада гісторыі пайшла інакш, то магчыма сёньня мы ўжо ня мелі-б гэтых сьвятыняў. За доўгія дзесяцігодзьдзі магілы прыйшлі ў заняпад, і нават узьнімалася пытаньне аб іхным зносе. У дадатак да ўсяго трэба было заплаціць за арэнду зямлі.

Дзякуючы таму, што ў 90-ых гадох у Чэхіі панавала зусім іншая, дэмакратычная атмасфэра, і дзякуючы беларуска-амэрыканскай фундацыі імя Пётры Крэчэўскага і асабіста спн. Ганне Бартуль, мы сёньня маем магчымасьць, запаліўшы сьвечкі, з кветкамі ў руках прыйсьці на Альшаны, каб пакланіцца мужнасьці і самаахвярнасьці нашых Дзядоў.

***Аўген СІДОРЫК***

# Дэлегацыя Рады БНР

***Заканчэньне з бачыны 1***

Дэлегацыя Рады БНР падрыхтавала адпаведныя дакумэнты, якія пакінула ва ўсіх наведаных структурах ЭЗ. Асноўная прэзэнтацыя пачыналася паведамленьнем аб гістарычнай і цяперашняй дзейнасьці БНР, аб нарастаючай небясьпецы страты незалежнасьці Беларусі праз магчымае стварэньне гэтак званага Саюзу Расеі-Беларусі. Далей закранalася тэма замежнага радыё і тэлевяшчаньня ў Беларусь, значэньне беларускай рэдакыі й мовы ўім ды канкрэтныя спосабы дапамогі беларускаму дэмакратычнаму руху перад прэзыдэнцкімі выбарамі. Дэлегацыя была прынятая зь вялікім зацікаўленьнем і ў бальшыні выпадкаў із паразуменьнем, маючы магчымасьць адказаць на мноства пытаньняў.

Першым было спатканьне зь кіраўніком найбольшай групы ў Эўрапарлямэнце Эўрапейскай Народнай партыі/Хрысьціянскай Дэмакратыі – немцам Гансам-Гэртам Поэтэрынгам, пасьля чаго прайшло спатканьне зь кіраўнікамі лібэрал-дэмакратаў шкотам Грохэмам Ўатсанам і палякам Янушам Анышкевічам. Былі спробы наладзіць спатканьне із другой сілай у Эўрапарлямэнце – сацыял-дэмакратамі, але якія дзеля абмежаванага часу не ўдаліся. На спатканьні з Генэральным дырэктарам Эўрадапамогі Коосам Рішэлем дэлегацыя была паінфармаваная аб сур'ёзных захадах перавесьці сродкі праграмы TACIS, якія заўсёды перадаваліся на праекты, прапанаваныя дзяржаваю, на карысьць дэмакратычнага руху. А гэта таму, што ЭЗ палічыў цяперашні ўрад Беларусі дыктатураю, якая ня дзейнічае на карысьць народу. На гэты год была прызначаная для Беларусі сума 8,7 мільёны эўра, зь якой ужо пералічана 2 мільёны эўра на тэндэр на замежнае тэле- або радыё вяшчаньне на Беларусь. Пазьней дэлегацыя ў спатканьні з прадстаўніком Эўракамісіі Юдытай Гэбэцройтнэр пабачыла чыста бюракратычны падыход да гэтага пытаньня, ня ўлічваецца намер тэндэру даставіць найбольш карыснай інфармацыі для беларускіх слухачоў і гледачоў. Затое ў наступны дзень у спатканьні ў Радзе ЭЗ дырэктар палітычнага аддзелу Крыстаф Гойцген з поўным разуменьнем паставіўся да беларускасьці вяшчаньня і абяцаў спрыяць у гэтым пытаньні. Ён таксама паведаміў, што Ксавер Салана падняў пытаньне Беларусі ў спатканьні з прэзыдэнтам Расеі, хоць ніякага адказу не атрымаў.

Апрача афіцыйных спатканьняў дэлегацыя пазнаёмілася з мэтамі недзяржаўнай арганізацыі Эўрапейскі Рух, якая дзейнічае ў падтрымку эўрапейскай еднасьці ўжо больш 50-ці гадоў. Як паведаміў ейны дырэктар галяндзец Генрык Краэнэр, гэтая арганізацыя атрымоўвае датацыі з Эўразьвязу і мае свае прадстаўніцтвы нават у суседніх з ЭЗ краінах уключна зь Беларусьсю.

Асабліва прыемным было вячэрняе спатканьне зь беларускаю грамадою ў Бэльгіі. Гэта ў бальшыні новыя эмігранты, палітычныя ўцекачы і студэнты. Ёсьць і прадстаўнікі палітычных партыяў і працаўнікі пры розных эўрапейскіх структурах Бэльгіі. Асаблівую арганізацыйную здольнасьць паказаў Ігар Лазарчук, які выконвае цэлы шэраг функцыяў, будучы і старастам грэка-каталіцкай царквы ў Антвэрпэне, дзе стала служыць а. Ян Масейчык, сьвятар, які актыўна і пасьпяхова рупіцца аб росьце беларускай парафіі. Ня менш актыўны і аўтарытэтны старшыня новастворанага Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня – Зьміцер Піменаў. Гэта толькі пры іхняй арганізацыйнай і фізычнай дапамозе дэлегацыі ўдалося прыбыць упару на ўсе афіцыйныя спатканьні ў даволі абмежаваным часе. За рулём і са сваімі машынамі безкарысна дапамаглі маладыя актывісты Аркадзь і Грыша, возячы дэлегацыю паміж Брусэлем, Антвэрпэнам і Лювэнам.

У Лювэне дэлегацыя адведала і памалілася перад магілаю кампазытара Міколы Равенскага. Аднавілі яе і пільна даглядаюць ужо згаданыя актывісты. Дэлегацыя вельмі ўдзячная за гасьціннасьць і старэйшых беларусаў Бэльгіі – раднага Янкі Жучкі, ягонай жонкі Веранікі і спн. Зоі Железоўскай-Смаршчок з Антвэрпэну.

Пасьля чатырох дзён інтэнсіўнай працы ў Бэльгіі дэлегацыя разьехалася, адзін у Прагу, другі ў Лёндан, іншыя ў Парыж. У Францыі аўтар гэтых радкоў меў магчымасьць пазнаёміцца з радным Лявонам Шыманцом, які ў пачатку 90-х гадоў навязаў быў добрыя бізнэсовыя кантакты паміж Францыяй і Беларусьсю. Ён таксама прыгадаў аб ролі ў беларускім жыцьці Францыі яшчэ зь перадваенных часоў, арганізацыі Хаўрус і ейнай сядзібы ў цэнтры Парыжу. Тут жылі й працавалі Лявон Рыдлеўскі, Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык, айцец Леў Гарошка і дзясяткі, калі ня сотні, іншых. Гэтае гістарычна слаўнае месца ў Парыжы можа неўзабаве адыйсьці ад беларускага карыстаньня, што было-б вялікаю стратаю для беларусаў усюды. Абмяркоўваюцца розныя магчымасьці ўтрыманьня гэтага месца, як арганізацыйныя, гэтак і часткова прыватныя. Зацікаўленых у дэталях просім зьвяртацца праз Е-мэйл да Лявона: ***leonidsymaniec@compuserve.com*** .

***В. СТАНКЕВІЧ***

# Беларусь за месяц

### Дзяды-2005

Сёлета адзначэньне грамадзкасьцю Дзядоў у Менску прыпала на 29—30 кастрычніка.

У першы дзень у Курапатах, дзе ляжаць расстраляныя дзясяткі тысячаў ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсіяў, прайшла талака, у якой узялі ўдзел актывісты Партыі БНФ, рабочыя мясцовага лясьніцтва ды міліцыянты. Потым адбылося ўсталяваньне мэмарыяльнага знаку на курапацкім пагорку — "Ахвярам сталінскага тэрору". У адкрыцьці знаку прынялі ўдзел амбасадары краінаў Эўразьвязу і ЗША, Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка і кандыдат ад дэмакратычных сілаў на пасаду прэзыдэнта Беларусі Алесь Мілінкевіч. Няўразам з прадстаўнікамі грамадзкасьці ўсклалі вянкі, кветкі ды запалілі сьвечкі ля Крыжа пакутаў.

30 кастрычніка, традыцыйнае шэсьце ў Курапаты зладзіла Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ. У шэсьці, якое распачалося ад станцы метро "Парк чалюскінцаў", узялі ўдзел тры сотні чалавек. Удзельнікі акцыі, як паведаміла Інфармацыйная кампанія БелаПАН, прайшлі дзевяць кілямэтраў да ўрочышча, усклалі вянкі і кветкі да Крыжа пакутаў, усталяванага ў 1989 годзе, ды паставілі 11 новых крыжоў. Цяпер у Курапатах больш за 500 крыжоў.

На мітынгу ва ўрочышчы было таксама зачытанае пасланьне лідэра партыі Зянона Пазьняка, які заклікаў суайчыньнікаў "ня плакаць ды ня скардзіцца на лёс". Намесьнік старшыні КХП БНФ Юрась Беленькі заявіў таксама пра фармаваньне ініцыятыўнай групы, якая будзе займацца падрыхтоўкай да ўдзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах-2006 і заклікаў аб'ядноўвацца вакол З. Пазьняка.

### Сфармаваны штаб Мілінкевіча

17 кастрычніка заяўлена пра пачатак працы штабу адзінага кандыдата ад аб'ядных дэмакратычных сілаў — Алеся Мілінкевіча. Узначаліў штаб першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі Сяргей Калякін, ягонымі намесьнікамі сталі кіраўнік Фонду рэгіянальнага разьвіцьця, былы дэпутат Вярхоўнага Савету СССР Віктар Карняенка, старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка і намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандар Дабравольскі. Лідэр АГП Анатоль Лябедзька ўзначаліў "ценявы ўрад". Да прэзыдэнцкіх выбараў засталося восем месяцаў.

### Напамін пра Ірак

27 кастрычніка ў Нью-Ёрку быў абнародаваны даклад аб махінацыях у рамках праграмы "Нафта ў абмен на харчаваньне". Ягоныя зьвесткі выклікалі значны рэзананс у сьвеце. Высьветлілася, што 2,2 тыс. кампаніяў з 66 краінаў, у тым ліку з Расеі, ЗША, Францыі, Нямеччыны, датычная да таго, што рэжым Садама Гусэйна ў Іраку ў абыход міжнародных санкцыяў атрымаў $1,8 млрд.

Згадваюцца ў дакладзе й беларускія кампаніі. "Белмэталэнэрга" заключыла 71 кантракт на суму $249,3 млн., увайшоўшы ў сьпіс самых буйных гуманітарных пастаўшчыкоў ў Ірак (13-е месца). "Белмэталэнэрга" пастаўляла ў Ірак трактары і будабсталяваньне, апрач таго кампанія давала хабар для атрыманьня кантрактаў на пастаўку нафты з Іраку. Гарантам аплаты выступаў "Інфабанк" (сёньня — Трастбанк).

Згадваецца ў дакладзе Лібэральна-дэмакратычня партыя Беларусі (старшыня — Сяргей Гайдукевіч), якая атрымала сваю долю ад іракцкіх зьдзелак. Цікава, што некалькі месяцаў таму С. Гайдукевіч выйграў працэс у газэты "Народная воля", якая абвінаваціла яго ў іракцкіх гэшэфтах. "Народную Волю" тады ашграфавалі на 100 млн бел. руб. (каля $46 000) за абразу гонару і годнасьці палітыка.

Фігуруе ў дакладзе сёньняшні кіраўнік Фэдэрацыі прафсаюзаў Леанід Козік у якасьці аднаго з трымальнікаў кантрактаў "Белнафтахіму" і брытанскай кампаніі Fossdik, якія набылі 9 млн. барэляў нафты.

### Сарвалі зьезд моладзі

Улады сарвалі зьезд моладзевых няўрадавых арганізацыяў, які меўся прайсьці 22—23 кастрычніка на турыстычнай базе пад Горадняй. У форуме зьбіраліся ўзяць удзел некалькі дзясяткаў актывістаў дэмакратычных арганізацыяў. Частка зь іх прыехала і без праблемаў размясьцілася на базе 20 кастрычніка. Аднак на наступную раніцу пад Валожынам (Менская вобл.) міліцыя затрымала тры мікраўтобусы з 30 удзельнікамі, канфіскавала ў кіроўцаў правы, а моладзь вытрэсла з аўтобусаў, адправіўшы па хатах. Удзень 21 кастрычніка на турбазу прыбылі супрацоўнікі АМОНу, пасьля размовы зь якімі дырэктар установы адмовіў маладзёвым актывістам у размяшчэньні, папрасіўшы неадкладна пакінуць турбазу.

### Пакараньне за сьцяг

22 кастрычніка ў Бабруйску (Магілёўская вобласьць) прайшоў фэстываль "Рок за баброў". Беларускія рок-гурты ў такі незвычайны спосаб пратэставалі супраць выкрэсьліваньня баброў з Чырвонай кнігі.

Падчас канцэрту сябры "Маладога фронту" Сяргей Лапцінскі і Дзяніс Буйніцкі ўзьнялі бел-чырвона-белы сьцяг. Іх затрымала міліцыя, і маладафронтаўцы правялі двое сутак у камеры ізалятару часовага ўтрыманьня. У панядзелак, 24 кастрычніка, маладыя людзі былі пакараныя двума суткамі арышту.

### Віцебскія выбухі: працяг

Па падазрэньні ў датычнасьці да выбухаў у Віцебску 14 і 22 верасьня (гл. "Беларус", № 513, кастрычнік) праваахоўныя органы затрымалі братоў Мурашкаў — 23-гадовага Віталя і 25-гадовага Юрыя. Паводле вэрсіі сьледзтва, у спадчыну ад памерлага бацькі, гадзіньнікавага майстра, дасталася вялікая колькасьць мэханізмаў. Менавіта аналягічнымі прыстасаваньнямі і прыводзіліся ў дзеяньне самаробныя бомбы. Юрыю і Віталю Мурашкам прад'яўлена абвінавачаньне па артыкуле "Замах на жыцьцё двух і больш чалавек" Крымінальнага кодэксу, што прадугледжвае вялікія тэрміны пакараньня.

### Кепскае лідэрства

Апошнім часам у Беларусі ад самагубстваў гіне больш людзей, чым у дарожнатранспартных здарэньнях, паведамляе Інфармацыйная кампанія БелаПАН, а суіцыдальныя паводзіны насельніцтва ёсьць адною з найвялікшых праблемаў грамадзтва.

Па колькасьці самазабойстваў Беларусь займае трэцяе месца ў Эўропе (пасьля Летувы й Расеі), абыйшоўшы традыцыйныя "краіны самагубцаў" — Фінляндыю, Вугоршчыну і Эстонію.

Па колькасьці суіцыдаў лідзіруе Віцебская вобласьць — 40 выпадкаў на 100 тыс. насельніцтва. Мэдыкі падкрэсьліваюць, што каля 70 адсоткаў людзей, што паспрабавалі зрабіць сабе сьмерць знаходзіліся ў стане алькагольнага ап'яненьня, значная колькасьць самагубцаў пакутуе ад псыхічных захворваньняў. Але для многіх сыход з жыцьця выкліканы і складанымі варункамі жыцьця.

### 16-я ззаду

У сёлетнім рэйтынгу свабоды прэсы, распаўсюджаным 20 кастрычніка міжнароднай арганізацыяй "Рэпарцёры бязь межаў", Беларусь займае 152-е месца з 167. Летась былі 144-ыя. Падзеньне выклікана, паводле аўтараў дакладу, "задушэньнем свабоды, закрыцьцём рэдкіх незалежных СМІ шляхам астранамічных штрафаў, арыштамі замежных журналістаў". 151-е месца займае Бангладэш, 153-е — Зымбабвэ. 163—167-ыя месцы займаюць М'янма, Іран, Эрытрэя, Туркмэністан, Паўночная Карэя.

Пяцёрку самых свабодных краінаў склалі Данія, Фінляндыя, Ірляндыя, Ісьляндыя, Нарвэгія. ЗША знаходзіцца на 44-м месцы (год таму — 22-ыя).

### Побач з Гандурасам і Эрытрэяй

Міжнародная арганізацыя "Transparency International" апублікавала Індэкс успрыняцьця карупцыі, у які ўвайшлі 159 краінаў. Самай карумпаванай краінай зьяўляецца Чад (159-е месца), самай сумленнай — Ісьляндыя. Беларусь заняла 107-е месца. Сьледам за намі — Гандурас, Эрытрэя, Казахстан, Нікарагуа, Палестына, Украіна. У 2004 годзе Беларусь займала 74-е месца.

### Беларуская рыса беднасьці

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі ніжэй за ўзровень пражытачнага мінімуму (рыса беднасьці) жывуць 16% насельніцтва. Цяперашні бюджэт пражытачнага мінімуму ў месяц складае 146 тысяч 150 рублёў (ці $68). Насамрэч за рысай беднасьці — у непасрэднай блізкасьці ад яе — знаходзіцца куды больш людзей: шмат у каго месячны заробак складае ад 150 да 200 тыс. рублёў ($70—90), што куды меней за дэкляраваную прэзыдэнтам заробатную плату ў $250.

### Прысуджаная прэмію Б. Кіта

Сёлета паэту й грамадзкаму дзеячу Сяргею Законьнікаву прысуджана прэмія імя Барыса Кіта. У інтэрвію Радыё "Свабода" сп. Законьнікаў наступным чынам пракамэнтаваў уручэньне ўзнагароды: "У мяне ёсьць розныя прэміі — Дзяржаўная прэмія Беларусі, міжнародныя Польшчы і Украіны. Але гэта асаблівая прэмія, яна носіць імя таго беларуса, якога я вельмі паважаю. Сп. Кіт паказаў, як можна ў самых неспрыяльных умовах зьберагчы павагу і любоў да сваёй Айчыны і нават за мяжою рабіць усё для таго, каб гэтая Айчына стала незалежнаю".

Прэмія імя Барыса Кіта была заснаваная ў 2001 годзе. Першым лаўрэатам стала літаратуразнаўца зь Менску Лідзія Савік — дасьледчыца жыцьця і дзейнасьці сп. Кіта, аўтарка публікацыяў і кнігаў пра знакамітага беларуса.

### Новая "Спадчына"

У другой палове кастрычніка зьявіўся сьвежы нумар гістарычнага часопісу — №6, 2003. Тэма нумару — "Далітоўская Беларусь". Друкуюцца артыкулы Міколы Крывальцэвіча і Аксаны Варатніковай "Архетыпы гравіраваных выяваў і арнамэнтальнага аздабленьня на касьцяных вырабах каменнага веку", Генадзя Семянчука "Ці існавала старажытнаруская народнасьць", Аляксея Шаланды "Сымболіка й геральдыка Полацкае дзяржавы ў X-XV ст., Георгія Навіцкага "Паўсталы з вайны: першае ўзвышэньне Менску".

Працягваецца друкаваньне ўспамінаў Дзьмітрыя Касмовіча. Гэтым разам — пра ягоную вайсковую дзейнасьць падчас нямецкай акупацыі ў Бранску і Смаленску.

*Уласны карэспандэнт*

## Што ёсьць прагрэсам для Беларусі?

Юры Дракахруст у 4-ым нумары часопіса ARCHE за 2004 год у артыкуле "Ваенная хітрасьць" піша: "Паводле адпаведных зьвестак, расейскамоўныя пераўзыходзяць у «прагрэсіўнасьці», «эўрапейскасьці» і г. д. ня толькі беларускамоўных, але і ўсе прамежкавыя моўныя групы." І далей: "Самая «прасунутая», «прагрэсіўная» група ў сэнсе палітычных памкненьняў – гэта расейскамоўная этнічныя беларусы."

Высноваробіцца сп. Дракахрустам на падставе сацыялягічнага апытаньня, якое, на ягоную думку, зьвязвае моўныя паводзіны і геапалітычныя прыхільнасьці апытаных у Беларусі. Паводле апытаньня, толькі 14,6 % тых, хто гаворыць па-беларуску, адказалі, што яны "за" далучэньне да Эўразьвязу (ЭЗ) ў выпадку, калі-б давялося выбіраць паміж Расеяй (РФ) і ЭЗ. У той-жа час аж 45,1 % расейскамоўных у Беларусі выказаліся "за" далучэньне да ЭЗ, калі-б давялося выбіраць.

**Такім чынам сп. Дракахруст выснову пра "прагрэсіўнасьць" робіць на падставе выбару палітычнага далучэньня да іншых геапалітычных цэнтраў. І калі выбар на карысьць ЭЗ – дык гэта прагрэс, калі на карысьць Расеі – рэгрэс.**

Прэфэрэнцыя далучэньня да іншых геапалітычных цэнтраў, як гэта сфармуляваная ў апытаньні, ня ёсьць аўтаматычнай умовай прагрэсіўнасьці пагляду ў "палітычных памкненьнях". Як на маё прачытаньне, прэфэрэнцыя ў адказах адлюстроўвае ня больш ня менш як далучэньне да кагосьці мацнейшага, хто забясьпечыць лепшае жыцьцё. Цікава было-б правесьці апытаньне сярод расейскамоўных беларусаў наконт таго, з чым яны асацыююць ЭЗ. Не пабаюся пайсьці ў заклад, што асацыяцыя гэтая - з эканамічнымі дабротамі, а не з дэмакратычнымі выбарамі. Тое самае вам скажуць і беларускамоўныя пра Расею, бо пераважна туды толькі і могуць паехаць на заробкі. Вось і ўсё, што дэманструе адказ з абодвых лягероў. Абедзьве групы з аднолькавым энтузіязмам галасуюць за патэнцыйнага працадаўцу, якога ведаюць з уласнага досьведу. Дык у чым прагрэс грамадзкага думаньня? Няўжо ў далучэньні да багацейшага працадаўцы?

**Сапраўдным прагрэсам для Беларусі было-б найперш фармуляваньне і разуменьне ўласнага нацыянальнага-дзяржаўнага інтарэсу як геапалітычнай адзінкі, а тады выбар саюзьнікаў.**

У Беларусі, перафразуючы Ўінстана Чэрчыля, ня мусіць быць пастаянных ворагаў і сяброў, а мусяць быць пастаянныя інтарэсы. Беларусы цалкам могуць сябе атаясамліваць з Эўропаю, але гэта зусім ня тоеснае жаданьню далучыцца да нейкай эўрапэйскай палітычнай адзінкі, як ЭЗ, бо гэта можа і ня быць у сёньняшніх інтарэсах Беларусі. Дык што, той хто галасуе за недалучэньне да ЭЗ ня мае прагрэсіўных пагляддаў? Швэйцарыя галасавала за недалучэньне да ЭЗ. Пераканаяя, што калі-б хто паставіў на рэфэрэндум ці галасаваць швэйцарцам за далучэньне да РФ, адказ быў-бы такі самы, не. Ці сьведчаньне гэта непрагрэсіўнасьці швэйцарцаў, ці разуменьне ўласнага інтэрасу? Думаю адказ ясны.

*Алеся СЁМУХА*

# Пішам гісторыю беларусаў Канады

Аўтар першага артыкулу з новага цыклю нашае газэты, прысьвечанага гісторыі беларусаў Канады, **Антон Маркевіч**, — чалавек знакаміты. Пра ягоную дзейнасьць перад і падчас вайны ён, будзем спадзявацца, яшчэ напіша ўспаміны, але й зробленае ім у гады паваенныя заслугоўвае ўсялякай пашаны.

А. Маркевіч быў старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады ў 1958 годзе, а пасьля на працягу дзесяці гадоў выконваў абавязкі сакратара ЗБК. У 1971 годзе ён браў удзел у дэлегацыі, якая ўручыла афіцыйным прадстаўнікам ураду горада Таронта бел-чырвона-белы сьцяг, што ад таго самага дню кожны год на 25 Сакавіка ўпрыгожвае ратушную плошчу городу. Як беларус ён быў запрошаны таронцкаю гарадзкою управаю на абед у гонар каралевы Альжбэты II у часе ейных адведкаў Канады.

Рыма-каталік па веравызнаньню, сп. Маркевіч бярэ дзейны ўдзел у жыцьці парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

Асабліва багата працы ўклаў А. Маркевіч у газэту "Беларус". На працягу доўгага часу ён быў ня толькі сталым карэспандэнтам нашага выданьня, але й рэдактарам адмысловае старонкі "Весткі з Канады", фактычным прадстаўніком газэты, распаўсюджваючы яе падпішчыкам па гарадох і мястэчках Канады.

Друкуючы гэты артыкул, рэдакцыя газэты шчыра віншуе спадара Антона Маркевіча з угодкамі: аўтар нарадзіўся 10 кастрычніка 1925 году. Дай Божа сто год!

## Клюб «Пагоня"

У 1950-х — пачатку 60-х гадоў у Таронта адчуваўся вялікі ўздым беларускага грамадзка-культурнага жыцьця. Ужо існавалі парафіі, арганізацыі, выдаваліся — спачатку ратитарныя, пазьней друкаваныя — камунікаты, бюлетэні й газэты, брашуры й кнігі. Адбываліся сьвяткаваньні ўгодкаў 25 Сакавіка, Слуцкага Збройнага Чыну, ладзіліся сяброўскія вечары, канцэрты, выставы, пікнікі, улазіны, калядоўшчыкі рабілі сваё. Паўстала Беларуская Ашчадная Каса, ухваленая ўрадам; паўстала аркестра "Melody of Oshawa" сп. Б. Лішчонка, існавалі суботнія школкі, танцавальныя гурткі. У правінцыях дзеілі сяброўскія аддзелы — у Лёндане, Судбуры, Ашаве, Мантрэалі. Набылі адпачынковы цэнтар "Слуцак". Адным словам, у Канадзе існавала сапраўдная беларуская цывілізацыя.

Зьявілася патрэба шырэйшага выдаваньня лятучак, інфармацыйных часапісаў, успамінаў, г. д. Фактычна, гэта й надало штуршок да заснаваньня ўласнага выдавецтва — "Pahonia Publishers", у чым трэба немалою заслугаю прызнаць дзейнасьць пісьменьніка Кастуся Акулы, які ўжо выдаваў свае творы.

І вось аднаго дня мне прыйшло на думку: а як-бы гэта было, каб мы пачалі выдаваць кружэлкі зь песьнямі й танцавальнаю музыкаю, імпартаваць зь Беларусі нашае народнае мастацтва — вышыванкі, інкрустацыі, строі, а таксама кнігі. Гэта было-б надзвычайнай магчымасьцю паказаць беларускі твар, бо канадыйцы на той час пра нас амаль нічога ня ведалі й рахавалі за расейцаў.

Выдавецтва "Пагоня" ўхваліла маю ідэю, і такім чынам нарадзіўся выдавецка-мастацкі Клюб "Пагоня" (524 St. Clarens Ave, Toronto). Ва Ўправу ўваходзілі: Кастусь Акула — старшыня, Антон Маркевіч — сакратар, Марыя Маркевіч — скарбнік.

Пра ўтварэньне Клюбу было шырака паведамлена; мы заклікалі ўсіх стацца ягонымі сябрамі. І сапраўды, суродзічы з розных краінаў сьвету пазытыўна адгукнуліся — нягледзячы на складку ў 50 даляраў. Кожнаму сябру, згодна статуту, мусіла дасылацца ўсё, што выдавалася ці стваралася Клюбам.

Новыя сябры атрымлівалі значок "Пагоня", 14 кружэлак зь песьнямі ў выкананьні Лювэнскага студэнцкага хору (дзякуй др. Запрудніку!), М. Забэйды-Суміцкага з Прагі, Сяргея Шульгі, Барбары Вержбаловіч, хору "Жалейка" з Мантрэалю, а таксама 3 кружэлкі з музыкаю аркестру "Melody of Oshawa" пад кіраўніцтвам Б. Лішчонка.

Высылалася і ўсё друкаванае Клюбам. Таксама мы імкнуліся набываць у Беларусі кружэлкі зь беларускімі песьнямі, кнігі, мастацкія вырабы, абрусы, ручнікі, карціны, сувэніры, якія потым надта прыдаваліся для выставаў на розных імпрэзах (асабліва ў Таронта на так званых Caravane), для распаўсюджваньня па бібліятэках і ўнівэрсытэтах.

Заўважальным было жаданьне беларусаў мець у сваіх хатах на сьцяне "Пагоню". Вось я і замовіў — у добрым выкананьні адлітую з мэталу, на бел-чырвона-белым шчыце. Яна карысталася вялізным попытам. Таксама на маю просьбу Андрэй Лабецкі (беларус-масон, фактычны заснавальнік Каардынацыйнага Камітэту паміж ЗБК і БНА, што ўзначальваў Рыгор Беразоўскі) змайстраваў вялікую "Пагоню" ў залю БРГЦ ў Таронта.

Клюб меў свае ўзнагароды. Гэтак, залатымі значкамі "Пагоня" былі ўзнагароджаны спадарства Сурвіллаў, фатограф зь Менску сп. А. Кляшчук, Бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане, а срэбраным — сп. З. Пазьняк.

Праца ішла, і неўзабаве мы адчулі брак месца, бо ўсё трымалі ў маёй хаце. Каб вырашыць гэтую праблему, надумаў прасіць у арэнду пакой для Клюбу ў нашым грамадзкім цэнтры. Гэта-б паспрыяла яшчэ большаму посьпеху справы. Але адказ парафіяльнай Рады быў наступным: мы можам мець пакой, але ня маем права яго замыкаць! Я на тое, зразумела, даць згоду ня мог. Пайшлі спрэчкі, узаемныя абвінавачваньні. Урэшце я зрокся свайго сакратарства й прапанаваў любому забраць усю маёмасьць. Толькі справу ніхто не пераняў, а я мусіў пераехаць у другі горад, бліжэй да месца працы (бо езьдзіў па 75 кілямэтраў штодзень на працягу 21 году). Калі ў 1982 годзе я пераехаў, усё клюбнае забраў з сабою, хоць месца багата не было, ды і ўмовы былі неадпаведнымі да захаваньня. Толькі нашмат пазьней Анатоль Хрэноўскі з Мантрэалю згадзіўся перавезьці да сябе ўсю маёмасьць. На гэтым мая клюбная дзейнасьць скончылася.

## "Песьні Беларусі"

Я часта любіў слухаць радыёперадачы этнічных групаў — польскія, нямецкія, македонскія, асабліва ўкраінскія, нават і расейскія. І вось аднаго разу падчас абеду ў адной рэстарацыі пашчасьціла мне пазнаёміцца з кіраўніком украінскай радыёперадачы "Пісьня Украіны" (станцыя CHWO ў гарадку Oakville, прыкладна 30 км ад Таронта), які паабяцаў мне дапамагчы зарганізаваць падобную перадачу для беларусаў. Неўзабаве я штонядзелі вёў паўгадзінныя перадачы з Оаквілу. Гэта прынесла новыя клопаты: трэба было лётаць па бізнэсах, вышукваючы платныя рэклямы на аплочваньне радыёперадачы; патрэбны быў магнітафон; патрэбна была друкарка, і г. д. Шукаў дыктараў, але ня ўсе пагаджаліся. Час ад часу выручала мяне Ніна Чорная (Слаўко).

Зьмест перадачаў быў пераважна бізнэсовы, але гучалі й беларускія тэмы, навіны, абвесткі. У адной зь іх я падаў гутарку з М. Абрамчыкам, прысьвечаную 25 Сакавіка. Ад суродзічаў ведаў, што праграмы слухаюць, іх чакаюць. І "Беларус" паведамляў пра існаваньне перадачы.

"Песьні Беларусі" праіснавалі паўгады. А потым я зрабіў фатальную памылку: папрасіў у кіраўнікоў станцыі адпачынку на некалькі тыдняў. "Мой" этэрны час адразу ўхапілі італійцы. Павароту ня было. І хоць пазьней мне калі-некалі ўдавалася праз асобныя радыёстанцыі (нават і CBC) падаваць у этэр беларускую музыку, дасылаючы ім кружэлкі, сваёй праграмы адрадзіць не атрымалася.

***Антон МАРКЕВІЧ***

**Ад Рэдакцыі: запрашаем аўтараў дасылаць свае артыкулы ў нашую новую рубрыку — *"Пішам гісторыю беларусаў Канады*".**

# Скандынаўскі шлях для Беларусі

Кейданская ўнія была падпісаная 20 кастрычніка 1655 году на тэрыторыі сучаснай Летувы і аб'яднала ў фэдэратыўную дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае і Швэцыю. Вунію падпісалі 1172 прадстаўнікі шляхты ВКЛ.

Асноўнай прычынаю ўніі яе падпісанты назвалі няздольнасьць тагачаснага польскага караля Яна Казімера абараніць тэрыторыю Вялікага Княства ад маскоўскіх і казацкіх нападаў.

Ініцыятары новага саюзу тлумачылі, што паводле Статуту ВКЛ, яны маюць права разарваць унію з Польшчаю і злучыцца ў унію з Швэцыяй. Паводле дамовы, у склад Швэцыі цалкам ўвайшлі ўсе тэрыторыі Летувы й Беларусі.

Аднак частка беларускіх земляў была ў той час акупаваная Масковіяй і ўкраінскай казацкай дзяржавай, таму фактычна да Швэцыі далучыліся толькі некаторыя тэрыторыі сучаснай Беларусі — Браслаўскі павет і Слуцкае княства з гарадамі Слуцак і Капыль.

Дзякуючы ўніі Вялікае Княства ўратавалася, бо інакш яно магло зьнікнуць, як украінская казацкая дзяржава, ужо ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя. Рэха ўніі было вельмі значным, яна зьмяніла ўвесь расклад сілаў на ўсходзе Балтыкі. Польскія гісторыкі адмоўна ставяцца да гэтай уніі — пішуць, што гэта здрада, што гэта нязначная падзея.

Гэта ня так. Бо вельмі хутка пераклады Кейданскіх дамоваў выйшлі друкам, і быў водгук у Амстэрдаме, у Парыжы, у Гамбургу, у Лёндане. Італійскія газэты, напрыклад, пісалі: «Разумеем, чаму ВКЛ злучылася з Швэцыяй, бо там, у адрозьненьне ад Польшчы, жыве процьма пратэстантаў — лютэранаў, кальвіністаў, арыянаў».

Рэлігійны фактар адыграў значную ролю ў тых падзеях. Галоўным ініцыятарам уніі з Швэцыяй быў кальвініст Януш Радзівіл ды іншыя пратэстанты. Хоць яны й былі меншасьцю сярод шляхты Вялікага Княства, але меншасьцю ўплывовай і адукаванай у найлепшых унівэрсытэтах Галяндыі й Нямеччыны.

Да таго-ж, сярод шляхты ВКЛ пратэстанты былі другою паводле колькасьці групаю пасьля каталікоў. Паводле Кейданскай дамовы, каталіцкай, уніяцкай і праваслаўнай цэрквам гарантавалася свабода веравызнаньня. Была ідэя Радзівіла пабудаваць пратэстанцкую палітычную нацыю паміж праваслаўнай Масковіяй і каталіцкай Польшчай.

Няўдачу ўніі тлумачаць як унутранымі, гэтак і вонкавымі фактарамі. Унутры Вялікага Княства розныя групоўкі ў той час арыентаваліся на розныя замежныя дзяржавы — ад Масковіі да Трансыльваніі — і ў гэтай барацьбе ўрэшце перамогу атрымала прапольская групоўка.

Вонкавая прычына — гэта стратэгічная памылка швэдзкага кіраўніцтва, якое не канцэнтравалася на ВКЛ, а распачало актыўнасьць адразу і ў ВКЛ, і ў Польшчы. Агулам швэды аддавалі перавагу сваім інтарэсам у Польшчы, хаця ў гэтай краіне яны ня мелі сацыяльнага апірышча. Таму яны прайгралі і там, і там.

З далучэньнем Вялікага Княства Швэцыя брала пад кантроль фактычна ўсё узьбярэжжа Балтыйскага мора, якое рабілася "ўнутраным возерам Швэцыі". Аднак Кейданская ўнія была выгадная і для Вялікага Княства.

Па-першае, частка Беларусі не спазнала вайны. Па-другое, сама ідэя была зрабіць Беларусь часткаю дынамічнай Швэдзкай імпэрыі. Мы ведаем, што, напрыклад, у гісторыі суседняй Латвіі, кароткі пэрыяд швэдзкага панаваньня, 1622-1704 гады, вядомы як "добры швэдзкі час". Швэдзкі ўрад правёў аграрную рэформу, якая палепшыла стан сялянаў, заснаваў унівэрсытэт, заклаў сыстэму народнай адукацыі, спрыяў разьвіцьцю латыскай літаратуры, надрукаваў Біблію на латыскай мове, праз выхаваньне настаўнікаў і пастараў стварыў першую ў гісторыі латыскую эліту. Як вынік, спынілася германізацыя латыскага этнасу, быў закладзены падмурак для посьпеху навачаснага нацыянальнага латыскага руху.

Беларусі ў той час не пашанцавала, бо Швэцыя прайграла тую вайну. Але калі-б мары пратэстанцкай эліты зьдзейсьніліся, сёньня Беларусь па мэнтальнасьці, культуры народу і дабрабыту была-б накшталт паўночнаэўрапейскіх пратэстанцкіх краінаў. Ва ўсялякім разе, пратэстанты Вялікага Княства зрабілі больш паважны ўнёсак у культуру Беларусі, чым гэта прызнаюць сучасныя беларускія гісторыкі.

***Андрэй КАТЛЯРЧУК***

У наступным годзе ў Стакгольме аўтар рыхтуе выдаць па-ангельску кнігу, прысьвечаную Кейданскай уніі й стасункам Швэцыі й ВКЛ у XVII стагодзьдзі.

Сёлета ягоная спроба наладзіць з нагоды ўгодкаў Кейданскай уніі чытаньні ў Менску скончыліся няўдала. А вось летувісы імгненна адгукнуліся на такую прапанову, і 20 лістапада ў Кейданах такія чытаньні адбудуцца. Там-жа будзе ўсталяваны памнік «канструктару ўніі» Янушу Радзівілу (ягоным імём ужо названая элітная частка летувіскага войска).




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №11 (478)


# Кастрычніцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага 16 кастрычніка прайшоў чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Сход быў цалкам прысьвечаны прыезду ў Нью Ёрк групы актораў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Якуба Коласа зь Віцебску. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка прывітаў актораў ад імя БАЗА і пажадаў, каб навязаныя кантакты захаваліся надалей.

Затым з прывітаньнем для гасьцей зь Віцебску выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк.

Сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, які мае даўнія сувязі зь Віцебскім тэатрам, дзе ёе некалі працаваў, засьпяваў сьпэцыяльна напісаную песьню ў гонар гасьцей. Кожны з гасьцей быў прывітаны бел-чырвона-белым букетам гвазьдзікоў.

Затым прысутныя маглі пачаставацца беларускімі стравамі, прыгатаванымі адмыслова для імпрэзы. Пасьля з словам у адказ выступілі дырэктар тэатру Рыгор Шацько, акторы Генадзь Гайдук, Тамара Скварцова, Юрась Цьвірка. У іх непаўторным выкананьні гучэлі беларускія вершы, песьні. Зноў з гітараю выступаў паэт і бард С. Сокалаў-Воюш. Усе прысутныя былі закліканыя наведаць спэктаклі тэатру 19-га кастрычніка ў Бруклінскай Акадэміі Мастацтваў.

Сустрэча прайшла ў надзвычай цёплай і сяброўскай атмасфэры.

***Віталь ЗАЙКА***



# ВКЛ

## (Разьдзел з артыкулу "Прамаскоўскі рэжым")

Канцэпцыя Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня грунтуецца на народнай гісторыі. Без каранёў нічога доўга не існуе. У беларусаў, бадай як мала ў каго іншага, ёсьць магутны гістарычны грунт – іхняя вялікая дзяржава, якую яны страцілі ў канцы XVIII-га стагодзьдзя ў выніку міжнароднай змовы і наступнай затым расейскай акупацыі. Гэта – Вялікае Княства Літоўскае. На Вялікае Княства і абапіраецца Беларускае Адраджэньне.

Галоўны накірунак расейскай акупацыйнай палітыкі (царскай і камуністычнай) заключаўся ў ліквідацыі беларускай мовы, беларускай культуры і зьнішчэньні ўсялякіх атрыбутаў, ведаў і напамінкаў пра Вялікае Княства. Расейская імпэрская палітыка, расейская палітычная гісторыя і дзяржаўная навука стагодзьдзі працавалі над заціраньнем, перакручваньнем і фальсыфікацыяй памяці пра Вялікае Княства Літоўскае. Пры камуністах афіцыйная "навука" дайшла да поўнага абсурду ў фальсыфікацыі і зьнішчэньні памяці пра ВКЛ ("канцэпцыі Л. Абэцэдарскага і інш.).

Аднавіць справядлівасьць да канца не ўдалося ні ў 1991-м годзе, ні ў 1994-м. Пры прыняцьці пасьлясавецкай Канстытуцыі найбольш працяглая і жорсткая барацьба вялася за прэамбулу Канстытуцыі, дзе якраз павінна было быць адлюстравана Вялікае Княства, яго дзяржаўнасьць і законы як грунт Рэспублікі Беларусь, якая ёсьць працягам ВКЛ.

Нішчыцелі цудоўна разумеюць, што аднаўленьне народнай памяці пра Вялікае Княства будзе азначаць адраджэньне гістарычнай сьведамасьці беларусаў і аднаўленьне нацыянальнай дзяржаўнасьці ВКЛ. Імпэрская палітнавука праз сыстэму забаронаў, абавязковай службы ў войску, выхаваньне і адукацыю пастаралася прывязаць гістарычную сьведамасьць беларусаў да гісторыі Расеі. Пры думках аб гісторыі ў галаве сярэдняга савецкага беларуса ўзьнікаюць вобразы расейскіх цароў ды палкаводцаў, "кутузавых" ды "цароўгрозных". Сам-жа гэтакі беларус нібы вісіць у паветры.

З паветра ніякая сьведамасьць не ўзьнікае, а значыць нічога ня будзе адраджацца, аднаўляцца, ствараціца і разьвівацца. ***Задача беларускай інтэлігенцыі, адукацыі, асьветы і нацыянальнай літаратуры – вярнуць гістарычную сьведамасьць народа ў родны дом – у Вялікае Княства Літоўскае.***

Наступны абавязковы этап – палітычны: ***вярнуць афіцыйную назву дзяржавы.*** Калі гэтага не зрабіць – значыць будаваць незалежнасьць на пяску, запраграмаваць шчарбатае, трэснутае грамадзтва з кволай самаідэнтыфікацыяй, поўнае супярэчнасьцяў на роўным месцы, і абсурдных спрэчак па недыскусійных пытаньнях.

Гэта ўжо відаць цяпер (і было раней) у распаўсюджваньні маргінальных зьяваў: адны хочуць называцца "Літвой", іншыя – "ліцьвінамі", трэція – увесьці лацінку, чацьвёртыя супраць назвы "Беларусь", пятыя – увогуле "крывічы" і г. д. Усё гэта – лякальнае адлюстраваньне незавершанасьці новага дзяржаўнага будаўніцтва, вынік нявырашанасьці таго, чаго не ўдалося вырашыць і зацьвердзіць у Канстытуцыі 1994 году. ***Канстытуцыя павінна засьведчыць гісторыю нацыі і дзяржавы ў намінальных (назыўных) тэрмінах.*** Сама назва дзяржавы павінна адлюстроўваць гэты важнейшы гістарычны аспэкт сувэрэнітэту і самастойнага існаваньня. Так прынята. Гэта істотна.

Афіцыйная назва Англіі (ці Вялікабрытаніі) гучыць так: Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірляндыі. Амэрыка афіцыйна называецца Злучаныя Штаты Амэрыкі. Ёсьць яшчэ Вялікае Герцагства Люксэмбург, Каралеўства Нарвэгія, Каралеўства Бэльгія, Каралеўствы Швэцыя, Данія, Ісламская Рэспубліка Іран, Чачэнская Рэспубліка Ічкерыя і г. д. (мы ўжо не нагадваем пра СССР, БССР і інш.)

Шмат дзе (і там дзе гэта неабходна) афіцыйны назоў дзяржавы адлюстроўвае яе гістарычную, сацыяльную альбо структурную сутнасьць. Становішча зь беларускай дзяржаўнасьцю і нацыяй па волі лёсу склалася такое, што вымагаецца адлюстраваньне гістарычнасьці ня толькі ў прэамбуле Канстытуцыі (чаго не было зроблена), але і ў назве краіны. Нашая дзяржава на сёньняшні дзень – гэта ёсьць, фактычна, ***Вялікае Княства Літоўскае Беларусь*** (кароткая назва – ***Беларусь***). Гэта сутнасьць, якая павінна-б была стаць афіцыйнаю назваю.

Тады застаецца Беларусь і беларусы, але зьнікаюць усе "пустыя" (інакш не назавеш) і надуманыя палітычныя ды гістарычна-этнічныя пытаньні, скончыцца блуканьне ў трох соснах хіжага розуму і ўсё становіцца на месца.

Адразу скажу, што гэта настолькі сур'ёзна для Беларускай дзяржавы, што ніякі лямант, ніякае хіхіканьне нішчыцеляў (наконт Вялікага князя і т. п.) не павінна-б было зьбіваць з тропу. Назва Беларускай дзяржавы мусіла-б быць удакладненая на карысьць нацыі.

Для непасрэднага вырашэньня пытаньня з поўнай гістарычнай назвай дзяржавы не хапае фармальных прыкметаў статусу ВКЛ (хоць у прынцыпе справа не страчаная). Але дзеля гэтага патрэбны іншы ўзровень разуменьня і сьведамасьці нацыянальнага грамадзтва, чым той, які ёсьць цяпер. Тым ня менш да разумнай і адэкватнай прэамбулы ў Канстытуцыі краіны наша грамадзтва ўжо на шляху. Якраз пасьля ліквідацыі прамаскоўскага рэжыму і пры вяртаньні Канстытуцыі 1994 году гэтыя гістарычныя ўдакладненьні ў прэамбулу трэба ўнесьці.

Гістарызм дзяржаўнасьці і гістарызм назвы – гэта пытаньне, якое стаіць цяпер (пасьля сканчэньня савецкага парадку ў сьвеце) ня толькі ў нас. Баўгары нават вярнулі ў палітыку баўгарскага цара. Праўда, зрабілі памылку – аддалі ў яго рукі рэальную ўладу. Функцыя ангельскай каралевы, тым часам, - сьведчаньне гістарызму Вялікабрытаніі. І гэта шмат значыць. Так што нічога няма немагчымага для разумнага нацыянальнага грамадзтва, якое рэальна ўсьведамляе свой агульны нацыянальны інтэрас.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

**Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:**

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| А. Данілюк | 30 |
| А. Лістоўская | 30 |
| П. Сыантовіч | 30 |
| І. Храпава | 30 |
| І. Чапля | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Наступны сход**

Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбудзецца 13 лістапада 2005 году ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне на ***401 Атлянтык Авэню.*** Пачатак а 12-й гадз. Запрашаем усіх зацікаўленых.

**Уплаты дасылайце на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

# Сымпозіюм у Гарвардзе

*Працяг з бачыны 1*

славянскіх моваў і літаратураў, Цэнтрам Дэвіса па вывучэньні Расеі й Эўразіі, Культурнай і адукацыйнай фундацыяй Орса-Романо і Паўночна-амэрыканскай асацыяцыяй беларускіх досьледаў.

На першай сэсіі, што была прысьвечаная літаратуры й музыцы ў сучаснай Беларусі, прагучэлі даклады Арнольда Макміліна з Лёнданскага ўнівэрсытэту (Англія), Зіны Гімпелевіч з Ўотарлу-ўнівэрсытэту (Антарыё, Канада) і Марыі-Паўлі Сурвіллы з Вартбург-калэджу (Аёва, ЗША).

У сваім дакладзе праф. Макмілін даў агляд беларускай літаратуры пасьля 1994 году, адзначыў асноўныя тэндэнцыі, узгадаў найболыш заўважных аўтараў і даў кароткую характарыстыку значных твораў. Выступоўца адзначыў жорсткія ўмовы, у якіх знаходзіцца беларуская літаратура пры рэжыме Лукашэнкі, ціск на Саюз пісьменьнікаў, закрыцьцё літаратурных часапісаў ды інш. Адзначалася, што дзеля гэтага шэраг пісьменьнікаў эмігравалі, а некаторыя заняліся вырабам трылераў у Расеі. Рэжым стварыў групу т. зв. "патрыятычных" пісьменьнікаў, куды ўвайшлі Т. Бондар, М. Мятліцкі, Р. Баравікова ды інш.. Сьмерць Васіля Быкава стала вялізарнаю стратаю для Беларусі. Другою стратаю стала сёлета сьмерць паэта Анатоля Сыса. Разам з тым ёсьць аптымістычныя рэчы, як выхад новых часапісаў "Дзеяслоў", "АРХЭ", працяг выхаду газэты "Наша Ніва", дзейнасьць выдавецтваў "Беларускі кнігазбор", "Логвінаў". Сярод новых тэмаў зьявіліся духоўныя матывы, эратызм. Лірычная паэзія робіцца больш інтраспэктыўнай і дэпрэсіўнай.

Прамоўца далей закрануў творчасьць А. Разанава, Г. Дубянецкай, Л. Сільновай, В. Іпатавай, А. Глёбуса, У. Някляева, С. Адамовіча, Г. Далідовіча, В. Чаропкі, М. Скоблы, В. Шніпа, У. Арлова, Л. Дайнэкі, А. Федарэнкі, А. Хадановіча, В. Бурлак, В. Жыбуля, М. Баярына, Я. Лайкова, В. Трэнас, В. Морт. Падсумаваў праф. Макмілін свой выступ так: «З такімі таленавітымі й глыбокімі аўтарамі Беларусь пры адпаведных умовах зойме належнае ёй месца ў эўрапейскай і сусьветнай літаратуры».

Праф. Зіна Гімпелевіч, аўтар нядаўна надрукаванай у выдавецтве Макгіл-унівэрсытэту (Канада) кнігі «Васіль Быкаў: Жыцьцё і творы» выступіла з дакладам пад назваю: "Васіль Быкаў: Мая біяграфія — у маіх творах". Выступоўца распавяла пра асабістыя сустрэчы і гутаркі з Васілём Быкавам, пра тое, як біяграфія пісьменьніка паўплывала на ягоныя творы. Затым прамоўца спынілася на канкрэтных фактах зь біяграфіі Васіля Быкава, што знайшлі адлюстраваньне ў асобных творах. Сярод іх — калектывізацыя ў родных мясьцінах, вучоба ў Віцебскай мастацкай вучэльні, удзел у Другой сусьветнай вайне. Як вядома, Быкаў лічыўся ўвесь час "ваенным" пісьменьнікам, бо менавіта вайне 1941-1945 гадоў былі прысьвечаныя амаль усе ягоныя творы да пачатку 1990-х гадоў. У 1990-я і напачатку 2000-х гадоў Быкаў выйшаў за рамкі ваеннай прозы, як адлюстроўваючы падзеі беларускай гісторыі, так закранаючы праблемы сёнешняй Беларусі. Асаблівую ўвагу пісьменьніка прыцягвала праблема аўтарытарызму. Шэраг твораў пісьменьніка з пазьнейшага пэрыяду прасякнутыя антыдыктатарскімі матывамі, за што Быкава замоўчвалі афіцыйныя ўлады Беларусі й змусілі правесьці апошнія гады жыцьця на выгнаньні.

Праф. Марыя-Пауля Сурвілла выступіла з дакладам «Назад у БССР, або працяг рытму: адаптаваньне гуку і выяваў у беларускай рок-плыні, 1989-2005». Выступоўца дала агляд беларускай рок-сцэны за апошнія 15 гадоў, суправаджаючы яго паказам альбомаў і найграньнем урыўкаў з музычных твораў. Пачынаючы ад "Песьняроў", былі прасочаныя тэндэнцыі ўплываў і прыцягненьне моладзі да беларускамоўнага року. Даўшы каротка характарыстыкі групам "Палац", "Крама", "Крыві", "NRM" ды іншых, а таксама іхным альбомам, праф. Сурвілла адзначыла прысутнасьць палітычных матываў у творчасьці, што сталі асабліва яскрава відаць у праекце "Беларуская Музычная Альтэрнатыва". Шэраг альбомаў стаўся прыкладам нацыянальнай дыягностыкі й крытэры для такога вызначэньня. А. Макмілін адзначыў, што, на ягоную думку, творчасьць Алексіевіч ня ёсьць літаратура ў агульнапрынятым сэнсе, а дзеля тэматыкі й расейскамоўнасьці, яна хучэй належыць да расейскай літаратуры, і таму засталася паза ягоным разглядам. Між тым прысутныя нагадалі, што Алексіевіч сама вызначае сябе як беларускую пісьменьніцу (напрыклад у інтэрвію "Радыё Свабода"). Праф. Гімпелевіч узгадала, што для Быкава Алексіевіч заўсёды была беларускай пісьменьніцай. Цікавыя пытаньні прагучэлі па дакладзе пра В. Быкава, а таксама пра беларускі рок. Пытаньні пра рок-музыку паказалі, што моцная яшчэ зьяўляецца думка пра тое, што беларуская музыка павінна захоўваць нейкія традыцыйныя, фальклёрныя прыкметы. Разам з тым пагадзіліся, што праз беларускамоўны рок масы расейскамоўных беларусаў далучаюцца да нацыянальнай культуры і праблематыкі.

Наступны дзень быў прысьвечаны палітыцы й культуры сучаснай Беларусі. Прагучэлі даклады праф. Рыгора Іофэ з Рэдфардзкага ўнівэрсытэту (Вірджынія, ЗША), праф. Ірыны Віданавай з БДУ (Менск) і Джон Гопкінс унівэрсытэту (Мэрылэнд, ЗША), і праф. Алены Гапавай з Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Менск-Вільня).

Праф. Іофэ ў сваім дакладзе "Культурныя войны, пошукі сябе й беларуская тоеснасьць" адзначыў, што ў беларусаў бракуе адзінай кансалідуючай нацыянальнай ідэі. Даўшы агляд ста-



*Сп. Віталь Зайка і праф. Рыгор Іофэ*

тыкі, што часам прыпраўленая іроніяй і чорным гумарам. Пошукі саматоеснасьці — адзін з выбітных аспэктаў беларускага року. Гэтыя пошукі адлюстроўваюць адзіноту, як рысу нашага часу. Культура зьяўляецца рэпэтыцыяй палітычнага дзеяньня, а рок-музыка — сродак, праз які моладзь далучаецца да палітычнага жыцьця. Моцным зьяўляецца матыў захаваньня спадчыны, роднай мовы. Заклікі на вокладках альбомаў, такія як: «Захавай мову продкаў – карыстайся ёю» – знаходзяць водгук у моладзі.

Праф. Томас Бэрд з Кўынс-калэджу выступіў як дыскусант па дакладах, выступоўцы адказалі на пытаньні. Цікавай стала дыскусія па пытаньнях, ці зьяўляецца С. Алексіевіч беларускай пісьменьніцай, і якія наагул крытычных дадзеных па пытаньнях мовы, стаўленьня да незалежнасьці й г. д., а таксама ўласных ўражаньняў ад наведваньня Беларусі, прамоўца спыніўся на трох асноўных нацыянальных праектах. Першы праект - праэўрапейскі беларускамоўны, прадугледжвае вызваленьне Беларусі ад рэштак расейскага каляніялізму і аднаўленьне сувязяў з Эўропаю. Другі праект - ліберальны расейскамоўны, сьцьвярджае, што падтрымка незалежнасьці Беларусі магчымая ў кантэксьце расейскамоўнай культуры, без пераходу на беларускую мову. Трэці праект носіць умоўную назву "крэольскага". Па прыкладзе колішніх гішпанцаў, што засталіся ў Паўднёвай Амэрыцы пасьля канца панаваньня Гішпаніі, "беларускія крэолы" ўжо ня лічаць сябе расейцамі, але яшчэ не прынялі астатнія беларускасьці як сваё. Тыповым прыкладам "крэольскага" самавыяўленьня ёсьць Лукашэнка і асобы, якія падтрымоўваюць яго. Прамоўца падрабязна спыніўся на трох праектах, прааналізаваў іх моцныя і слабыя бакі. У канцы праф. Іофэ выказаў сьцьвярджэньне, што існаваньне беларускай дзяржаўнасьці раней ці пазьней прымусіць выпрацаваць адзіную нацыянальную ідэю.

Ірына Віданава ў сваім дакладзе "Дзяржава супраць нацыі: Лукашэнка і палітыка ў галіне адукацыі" дэталёва спынілася



*Праф. Ірыны Віданава*

на праграмах па гісторыі Беларусі ў школах і вышэйшых навучальных установах і на зьменах, якія былі ўведзеныя ў іх у апошнія 10 гадоў. Пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады былі зьнішчаныя падручнікі й праграмы па гісторыі Беларусі, якія былі створаныя пасьля 1991 году. Пачалося перапісваньне гісторыі, а гістарычныя факты перакручваліся на патрэбу ідэалягічных тэорыяў рэжыму. Апафэозам гэтага працэсу стаў падручнік для вышэйшых навучальных установаў "Гісторыя Беларусі" пад рэдакцыяй Якава Трашчанка, выкладчыка Магілёўскага пэдінстытуту, што некалі выкладаў гісторыю Лукашэнку. У гэтым падручніку можна прачытаць, напрыклад, што Кастусь Каліноўскі не беларускі герой, а польскі пан, які ненавідзеў Расею, што паэтка Натальля Арсеньнева — паслугачка фашыстоўскіх акупантаў, Рада БНР — слугі кайзэра Вільгельма і г. д. Новыя падручнікі пісаліся колішнімі выкладчыкамі "навуковага камунізму" і гісторыі КПСС. Фактычна была ўведзеная цэнзура. Запраўляе ўсім Галоўная ўправа грамадзка-палітычнай інфармацыі пры Адміністрацыі прэзыдэнта. З навучальных і дасьледчых установаў былі звольненыя сумленныя навукоўцы, што імкнуліся аб'ектыўна адлюстроўваць гістарычныя падзеі.

Затым дакладчыца прааналізавала стаўленьне рэжыму да нацыянальнай спадчыны і мовы, і дала аналіз поглядаў Лукашэнкі на гісторыю. Напрыканцы дакладу яна сказала, якім, на яе думку, павінна быць вывучэньне нацыянальнай гісторыі.

Спн. Віданава, якая зьяўляецца таксама рэдактарам часапісу "Студэнцкая думка", правяла прэзэнтацыю жыва і цікава, паказала прысутным пралукашэнкаўскі падручнік Трашчанка і нядаўна выдадзены аб'ектыўны падручнік гісторыі Беларусі аўтарства З. Шыбекі.

Прафэсар Алена Гапава, якая была некалі госьцем аднаго з сходаў Нью Ёрскага аддзелу БАЗА, прачытала даклад, які называецца "Культурнае як палітычнае ў беларускіх інтэлектуальных часапісах". Прааналізаваўшы зьмест незалежных часапісаў "АРХЭ", "Фрагмэнты", "Топас", "Палітычная сфэра", а таксама зьмест сеціўных сайтаў кшталту "Беларускай інтэлектуальнай супольнасьці", дакладчыца прыйшла да высновы, што беларускія інтэлектуалы распрацоўваюць парадыгму "заходняй веды" для сваёй краіны і звычайна атрымліваюць з Захаду сродкі ў выглядзе грантаў на досьледы, публікацыі, удзел у канфэрэнцыях, доступ да бібліятэкаў, інтэрнэту і г. д. Такім чынам, на думку дакладчыцы, сувязь з "заходнім капіталам" робіць гэтых інтэлектуалаў "новай клясай", якая нараджае "нацыянальныя праекты". Гэтая кляса мае свае інтарэсы, далёкія ад інтарэсаў "простага люду". Далей праф. Гапава паспрабавала высьветліць узаемадносіны паміж рынкам й нацыяналізмам, сьцьвярджаючы, што рынак ёсьць коранем і асноваю нацыяналізму, які нібыта легітымізуе падзел на клясы пад маркаю "нацыянальнага вызваленьня". Такім чынам, атрымліваецца, што сытуацыя ў Беларусі ёсьць ня што іншае, як барацьба клясаў у чыстым выглядзе, калі адна група з пэўным наборам эканамічных і культурных каштоўнасьцяў хоча зьмяніць статус кво, а другая група — захаваць яго. Падтрымліваючы заходнія каштоўнасьці й атрымоўваючы заходнія гранты, беларускія інтэлектуалы зьяўляюцца праваднікамі заходніх уплываў і новага сацыяльнага парадку — капіталізму і клясавай няроўнасьці.

З дыскусійнымі заўвагамі па дакладах выступілі Віталь Зайка з Інстытуту габрайскіх досьледаў ІВО і Тыматы Снайдар, прафэсар Ельскага ўнівэрсытэту, аўтар кнігі "Адбудова нацыяў: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь. 1569-1999". В. Зайка адзначыў патрэбу абачлівейшага ўжываньня тэрмінаў кшталту "радыкальны нацыяналізм" для беларускай сытуацыі і аспрэчыў сьцьверджаньне А. Гапавай, што рынак ёсьць прычынаю нацыяналізму, а беларускія інтэлектуалы ёсьць "страшна далёкая ад народу" купка спажыўцоў заходніх грантаў, якая прапіхвае замоўленыя капіталістамі ідэі. Таксама спрэчнай у дакладзе І. Віданавай была цытата з Р. Ліндэра, што для вяртаньня аб'ектыўнасьці беларуская гісторыя мусіць быць такой, "якой яна рэальна была: гісторыяй памежнай краіны з этнічнай, культурнай і гістарычнай разнастайнасьцю". Наколькі рэальна некаму заяўляць пра веданьне "рэальнай гісторыі"? І наколькі мае рацыю падыход да Беларусі як "памежнай краіны"? Ці лічаць сябе "памежнымі краінамі" ска-

*Заканчэньне на бач. 8*

# Лісты ў рэдакцыю

## Гастролі тэатру

Як прыемна было нам, беларусам, якіх лёс закінуў у Амэрыку, сустрэцца ў кастрычніку ў Нью Ёрку з нашым любімым тэатрам зь Віцебску. Мы тут, бы на другой плянэце, сярод чужой архітэктуры, чужых людзей і чужой культуры, усе шмат і цяжка працуем, вучымся, і тут раптам такая падзея – беларускі тэатар!

"Спэктакль – пятля, каб злавіць сьвядомасьць караля", – кажа Гамлет. Як добра сказана: злавіць сьвядомасьць. Сапраўды, сьвядомасьць альбо імкліва рухаецца, альбо замыкаецца ў сабе. Звычайны чалавек ня любіць марудзіць, бо жыцьцё яго прысьпешвае. Большасьць людзей найбольш займаюсь яны самыя, асабліва такія, якімі маглі-б быць. Адсюль іхняя схільнасьць да тэатру, да відовішча, дзе яму прапануюць столькі лёсаў, паэзіяй якіх ён жывіцца, сьпяшаецца насустрач няпэўнай надзеі, дзе ягоны дух, кінуўшы захапляцца гульнёй збоку, хоча сам уступіць у яе і сыграць пэўную ролю ў жыцьці.

Так, тэатр яднае ў сабе эстэтычную і маральную сыстэмы, і акторы віцебскага тэатру гэта добра паказалі.

П'еса Сакрата Яновіча "От Цо, Да" аб сутыкненьні сьвету велічы незалежнасьці духу і волі чалавека зь нізасьцю раба, які шукае каму-б паслужыць. Калі галоўны герой Браніслаў Тарашкевіч (іграе актор Генадзь Гайдук) прамовіў: "Беларусь мусіць быць сувэрэннай і незалежнай!", – уся заля апляндыравала стоячы, затое пакацілася ад сьмеху, калі п'янага камісара-бальшавіка, каб ён не згубіў раўнавагі, трэба было падтрымліваць ня толькі збакоў пад рукі, але і за вушы.

Спрошчана падаецца вобраз нашай Беларусі праз абліччa прыгожай статнай жанчыны ў белым адзеньні, якая, аднак, кульгае на адную нагу, нібы для поўнага здароўя ёй не хапае роднай мовы і волі. Зьмест спэктаклю балюча кранае за сэрцы.

П'еса Ўладзімера Драздова "Шагал... Шагал..." пра маладыя гады сусьветна вядомага мастака зь Віцебску Марка Шагала – гэта рамантычна-настальгічная замалёўка аб мінулым. Сам Шагал (яго іграе актор Генадзь Гайдук) амаль ня ўдзельнічае ў спэктаклі, а як-бы аднекуль здалёк, адкуль ужо нельга вярнуцца, перагортвае дарагія ўспаміны, якія дагэтуль жывуць у ягонай душы, аб Радзіме, далёкім дзяцінстве, маладосьці і першым каханьні, аб маці й бацьку, суседзях, заўжды гатовых дапамагчы ў цяжкую хвіліну.

Спэктакль нясе і шырэйшы зьмест. І сьмешна, і грэшна было глядзець, як інспэктар-камуніст (выдатны актор Рыгор Шацько), прагледзеўшы творы Шагала, загадвае: "Замазаць! Казу – апусьціць на зямлю, жанчыну – побач з казою, і дамаляваць каля яе здаровага мужыка зь вялікім молатам!", – красамоўна ўзьняўшы пры гэтым кулак. Вельмі ўдала рэжысёр Віталь Баркоўскі зьвёў драматургію тэатру да такой умоўнасьці, што здаецца, нібы акторы зь нічога зрабілі спэктаклі, раскрываючы зьмест і вобразы праз сэрца і душу пластыкай цела, жэстам ці праз голас, які належыць душы ў той самай ступені, што і целу, калі само маўчаньне робіцца чутным і нават нерухомасьць – відовішчнай. Непаўторныя лёсы, што разгортваюцца і заканчваюцца ў кароткі час у замкнёнай прасторы, – якога яшчэ выразьнейшага паказу ў мініяцюры можна жадаць? За тры гадзіны адныя і тыя-ж акторы пераўвасабляюцца з аднае асобы ў другую, цалкам ўваходзячы ў жыцьці, якія не зьяўляюцца іхнымі ўласнымі. Бясспрэчна, што віцебскі тэатар імя Якуба Коласа добрага сталічнага густу і высокага ўзроўню, і гледачы гэта ацанілі доўгімі апладысмэнтамі. Настрой быў узьняты й сьвяточны.

Хочацца яшчэ колькі добрых словаў сказаць аб прафэсыйнай працы са сьвятлом. Элементы дэкарацыяў былі простыя, але пераканаўчыя, заўсёды адпавядалі характару і зьместу. Аздабленые сцэны простымі вяроўкамі надавала графічнасьць, пачуцьцё перспэктывы і этнаграфічнасьці.

Дарагія віцябляне, вялікі дзякуй Вам за сьвята, якое Вы стварылі для нас сваім прыездам і талентам!

*Валянціна ЯКІМОВІЧ*

## Патрэбныя навучальныя дапаможнікі

Заклікі бараніць беларускую мову, каб не сапхнулі яе з ужытку, як напрыклад, "Не пакідайце мовы нашай, каб ня ўмёрлі!", "Не аддамо на згубу родную мову!", якія ёсьць у доўгім артыкуле праф. Л. Лыча ў газэце "Беларускі Дайджэст" за верасень 2005 г., ня робяць ўзьдзеяньня на грамадзтва Беларусі.

І не адзін сп. Лыч кліча бараніць мову, але і большыня беларусаў паўтарае тое самае: гавары па-беларуску, дамагайцеся ўвядзеньня беларускай мовы ў існуючых школах. Нажаль, адныя толькі заклікі, нараканьні й гутаркі не даюць ніякага плённага выніку.

У гэтым выпадку патрабуюцца канкрэтныя дзеяньні. У беларусаў ёсьць такая прыказка: загнаны ў дзерава клін трэба й выганяць клінам. Гэта значыць, усёй навязанай уладамі расейшчыне трэба супрацьставіць нашую беларушчыну, стварыць і распаўсюджваць запраўды свае беларускія навучальна-выхаваўчыя дапаможнікі.

Пачаткова было-б нават дастаткова ўладзіць 50 лекцыяўканспэктаў па важнейшым прадметам, мове, гісторыі, грамадзкім ведам, геаграфіі. Уладжаны зь лекцыяў курс трэба раздрукаваць і распаўсюдзіць па кожнай мясцовасьці. Маючы такія дапаможнікі, можна вучыцца адзіночна ці групамі па 3-4 асобы, з настаўнікамі ці бяз іх.

Важнасьць такіх канспэктаўкурсаў у тым, што іхні зьмест мае быць так распрацаваны, каб ён прышчапляў беларускі патрыятызм. Спаборнічаць у ўкладаньні такіх канспэктаў ёсьць абавязкам і гонарам кожнага беларусаведа.

Праф. Л. Лыч прапаноўвае прыносіць дадому беларускія кнігі - для сябе і для дзяцей. "Хай яны змалку чуюць беларускую казку, вучаць беларускія вершы, сьпяваюць беларускія песьні. Але справа ў тым, што за дзесяць гадоў выйшла безьліч кнігаў і газэтаў, а нейкага выніку ў адстойваньні беларушчыны не заўважаецца.

Тут патрэбная распрацоўка лекцыяў ды вучоба па іх, прыватна і нават прыхавана, калі абставіны змушаюць.

У царскія і пазьнейшыя камуністычныя часы палякі вучыліся пальшчызьне такім самым чынам. Называлі яны гэтую адукацыю лятаючымі ўнівэрсытэтамі.

Такім чынам падтрымоўваюць сваю нацыянальную самасьвядамасьць курды ў Іраку. Апошнім часам прыйшла надзея і да іх, у новым Іраку будуць яны мець аўтаномію, а потым, магчыма, і незалежнасьць.

*Арм*

## Памылкі ў адрасох

У "Беларусе" №511 (жнівень 2005 году) было паведамленьне, што радыёстанцыя "Нямецкая хваля" будзе весьці вяшчаньне на Беларусь на расейскай мове. Быў таксама надрукаваны заклік да беларусаў, каб пісалі лісты з пратэстамі ў розныя эўрапейскія ўстановы. У закліку былі пададзеныя паштовыя і электронныя адрасы, тэлефоны, факсы і г. д.

Аўтар гэтага ліста адгукнуўся на заклік і напісаў адпаведны ліст. На вялікі жаль, лісты электроннай пошты не даходзілі да адрасатаў. Чаму?

Я асабіста падазраю, што адрасы, паданыя ў "Беларусе", былі недакладнымі. Юылі ў адрасох таксама артаграфічныя памылкі.

Лічу, што перад надрукаваньнем такія адрасы трэба ўважліва спраўджаць і яшчэ раз спраўджаць.

*Міхась ШВЭДЗЮК*

# Марыя ХАНЯЎКА
## (22.08.1911 - 26.10.2005)

26 кастрычніка ў Нью Брансўіку, ЗША, на 95-м годзе жыцьця памерла Марыя Ханяўка, калісьці рупліва ўдзельніца-арганізатар усякіх грамадзкіх застольных бясёдаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных такімі арганізацыямі, як БАЗА і БАПЦ. Сьв. памяці Марыя й яе муж інж. Часлаў Ханяўка ды іхняя малая дачка Рагнеда былі ўдзельнікамі Першае Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася ў ліпені 1952 году ля вадаспаду Ніягара ў Канадзе. Марыя і Часлаў узгадоўвалі сваё дзіця, якому надалі слаўнае імя РАГНЕДА, у беларускім духу. Асабліва бацька Часлаў прынцыпова не хацеў гаварыць да дачкі-школьніцы па-ангельску, казаў ёй: "Вучыся па-беларуску!" І, дзякуючы бацькам, Рагнеда Ханяўка, цяпер Ўітнэй, атрымала вышэйшую асьвету і прыгожа, без акцэнту, гаворыць па-беларуску.

Марыя Ханяўка была жанчынаю прыгожаю, разумнаю, энэргічнаю, добраю маткаю і жонкаю. Доўгімі гадамі яна даглядала дома свайго цяжка хворага мужа Часлава, які быў стрыечным братам былога Старшыні Рады БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Абодва яны былі родам з Будслава, ведамага тым, што ў ім была заснаваная першая беларуская гімназія. Там таксама ёсьць базыліка з каранаваным абразам Будслаўскае Божае Маці, якія твораць беларускі санктуарыюм, раўназначны з Вострую Браму ў Вільні ды Чанстаховай у Польшчы.

Праз сваё доўгае і карыснае жыцьцё сьв. памяці Марыя Ханяўка зрабіла шмат дабра, як для розных людзей, так і для беларускага грамадзтва ў Паўночнай Амэрыцы.

Цела Марыі Ханяўкі спачывае побач яе мужа на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку, ЗША. Вечная Ёй памяць, а душы Яе вечны супакой.

Ад імя беларускага грамадзтва Канады выказваю глыбокія спачуваньні сям'і памерлае: Рагнедзе і Дональду Ўітнэй, унуку Данілку, праўнукам ды Эдварду Шулячкоўскаму.

*Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ*

# Уладзімер ГІНЬКО
## (05.05.1925 - 19.09.2005)



Уладзімер Гінько нарадзіўся ў вёсцы Маркі Шаркаўшчынскага раёну Віцебскай вобласьці (былога Віленскага ваяводзтва).

Па заканчэньні 2-й Сусьветнай вайны ў 1946 годзе Ўладзімер у складзе 2-га Польскага корпусу прыехаў з Італіі ў Англію. У Англіі ўвесь час жыў у горадзе Манчэстэры, працаваў у фірме "Dunlop".

У. Гінько быў адным зь першых, хто ўступіў у Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі. У Манчэстэры ад самага пачатку быў сябрам Управы аддзелу ЗБВБ, доўгагадовым адміністратарам Беларускага Дому, 40 гадоў быў старастам і скарбнікам царквы Жыровіцкай Божай Маці, быў таксама доўгія гады сябрам Рады БАПЦ у Англіі.

Адпяваньне ў царкве Жыровіцкай Божай Маці адслужыў а. Ян Абабурка 27 верасьня 2005 году. Пахаваны ў беларускай сэкцыі могілак "Southern Cemetery". На пахаваньні прысутнічала вялікая грамада людзей, паколькі нябожчык быў добрым і здольным майстрам да ўсяго і ніколі не адмаўляў дапамогі, калі да яго зьвярталіся.

Пакінуў-у смутку жонку Барбару, сыноў Пятра і Міхася з жонкамі, пяць унукаў.

Выказваем шчырыя спачуваньні ад Галоўнай Управы ЗБВБ для ўсёй радні Ўладзімера Гінько.

Вечная яму памяць!

*Доўгагадовы сусед Хведар КАЖАНЕВІЧ*

# Сьвята ўсіх праваслаўных беларусаў

Юрка Віцьбіч неяк аднойчы заўважыў: "Каб убачыць фігуральна вышыню гары, трэба адысьці й глянуць на яе з пэўнай адлегласьці". Глянуўшы сёньня з пэрспэктывы часу на жыцьцё і царкоўную дзейнасьць а. пратапрасьвіцера Мікалая Лапіцкага, больш акрэсьлена й маштабна бачыцца ягоная архіважная роля як беларускага сьвятара-патрыёта ў гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы і яе аўтакефаліі. Бадай адным зь першых на гэта яшчэ ў 70-я гады зьвярнуў увагу др. Вітаўт Кіпель. Менавіта ягоная зьдольнасьць шырака бачыць зьявы й настойлівасьць у ажыцьцяўленьні ідэяў спрычыніліся да таго, што спадчына а. М. Лапіцкага ўбачыла сьвет у выглядзе кнігі.



Спн. Лёля Касоўская (Лапіцкая)

30 кастрычніка ў грамадзкім цэнтры ў Саўт Рывэры адбылася прэзэнтацыя зборніка, укладзенага й грунтоўна апрацаванага навуковым супрацоўнікам Інстытута Славістыкі Польскай АН др. Юрасём Гарбінскім, знаным дасьледчыкам рэлігійнага жыцьця нашае эміграцыі. Дапамогаю кваліфікаванымі парадамі пры ўкладаньні спрыялі др. Янка Запруднік ды родныя а. М. Лапіцкага – дачка Лёля і сын Жорж. Хацелася-б адзначыць таксама дабразычлівасьць і ўвагу царкоўных актываў і кіраўніцтва праваслаўных парафіяў у Саўт Рывэры (М. Сенька, Л. Літаровіч, В. Цярпіцкі) і Гайленд Парку (А. Сільвановіч, В. Дубяга).

На прэзэнтацыю, якая сабрала ўсю сям'ю Лапіцкіх-Касоўскіх, прыйшлі ня толькі жыхары й парафіяне Саўт-Рывэру; прыехалі беларусы з Гайленд Парку, Брукліну ды іншых ваколіцаў, бо сьвята было насамрэч агульным.

На сьвяце прамаўлялі дзеці і ўнукі а. М.Лапіцкага; згадваў сустрэчы на Ашмяншчыне сп. А.Шукелойць, расказвалі пра арганізатарскія здольнасьці сьвятара М.Сенька й В.Цярпіцкі, разважалі пра пакутны шлях БАПЦ др. Я. Запруднік і праф. Т. Бэрд; др. Ю. Гарбінскі дзякаваў за дапамогу ў працы. Апошнім выступаў др. В. Кіпель, які, згадваючы мінулае, зьвярнуў увагу на ўласьцівую беларусам ахвярнасьць, ды дзякаваў сям'і Лапіцкіх-Касоўскіх за фінансавую дапамогу ў выданьні спадчыны а. М. Лапіцкага, падрыхтоўцы ангельска-беларускага слоўніка ды выданьні газэты "Беларус".

Падчас прэзэнтацыі ў залі адчувалася слушнасьць словаў а. М. Лапіцкага: "Царква – народнае цела. Яна заўсёды мае нацыянальнае аблічча, бо царква – гэта народ (вернікі) і гіерархія. Царква непераможная, калі гэтыя два пачаткі (народ ды гіерархія) моцна спаяныя паміж сабою. Царква ня служыць антынародным мэтам, бо ў гэтым выпадку яна дзее супраць самое сябе й немінучым наступкам вядзе да яе-ж заняпаду, як гэта здарылася з Царквой Расейскай імпэрыі, калі царкоўная гіерархія, адышоўшы ад паняволеных расейскім урадам народаў, пайшла на службу імпэрыялістычным мэтам Масквы й заміж праваслаўнае зрабілася "рускай".

Кожны народ павінен мець сваю Царкву, інакш ён ніколі ня будзе суб'ектам міжнародных дачыненьняў ды застанецца аб'ектам міжнароднага гандлю. Народ, які дасьпеў да таго, каб мець сваю самастойную Царкву, лічыцца дзяржаўна сьпелым народам. Вось чаму ідэя арганізацыі беларускага рэлігійна-нацыянальнага жыцьця спатыкае моцную рэакцыю з боку ворагаў беларушчыны розных масьцей. Яны – ворагі беларускае незалежніцкае думкі – вельмі добра разумеюць, што, арганізуючы нашае рэлігійна-нацыянальнае жыцьцё, мы кладзем моцны грунт пад наш незалежніцкі і палітычны рух".

Выданьне спадчыны а. М.Лапіцкага ёсьць асабліва актуальным сёньня, бо наглядна паказвае, што Аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы ў сваіх пачатках мела кананічную і гістарычную лучнасьць з Канстантынопалем. Яна была і будзе тым трывалым фундамэнтам, які захавае жыцьцёвасьць і адзінства БАПЦ – сёньня і ў будучым.

*Прысутны*

# Сымпозіюм у Гарвардзе

Заканчэньне з бач. 1, 6

жам, Бэльгія ці Аўстрыя, што мяжуюць зь некалькімі калісьці вялікімі дзяржавамі? Па дакладзе праф. Р. Іофэ сп. Зайка адзначыў, што наяўнасьць некалькіх нацыянальных праектаў ня значыць немагчымасьці кансалідацыі, але падтрымаў ідэю "Жэнеўскай канвэнцыі" для Беларусі ў вызначэньні каштоўнасьцяў і ідэяў, што былі-б успрынятыя большаю жыхароў краю.

Праф. Снайдар зазначыў у сваіх заўвагах, што пададзеная ў дакладзе праф. Іофэ апазыцыя нацыя-нацыяналізм нагадвае апазыцыю курыца-яйка. Што да шматлікасьці нацыянальных праектаў — гэта цалкам нармальна, і менавіта гэтага трэба чакаць. Іншае пытаньне — ці сапраўды кожны з гэтых праектаў ёсьць у поўным сэнсе праект развіцьця нацыі. Наконт канфлікту вакол мовы радыё "Нямецкая хваля": яго немагчыма разглядаць па-за палітыкай, і ўжываньне мовы само па сабе ёсьць кшталтам палітыкі. Відавочна, што цяпер у Беларусі існуюць прыхільнікі як мадэляў чэскай і летувіскай, так і аўстрыйскай ды ірляндзкай. Час пакажа, хто зь іх пераможа. У дачыненьні да дакладу праф. Віданавай праф. Снайдар нагадаў, што клянучы «нацыяналістаў» Лукашэнка добра ведае, што нацыі не нараджаюцца з марскої пены, і ён мае свой нацыятворчы праект, які жадаў-бы пазбавіць канкурэнтаў. Што да тэорыяў і падручнікаў, якія ўтылізуюць савецкія догмы — невядома, колькі яны пратрываюць, бо становяцца ўсё больш занудным для моладзі, якая адкрывае сьвет па-за вузкімі рамкамі афіцыйнай ідэалёгіі.

Спыніўшыся на дакладзе А. Гапавай, Снайдар адзначыў, што падазронасьць да грантаў і дапамогі з-за мяжы для беларускіх інтэлектуалаў беспадстаўная, бо ня ёсьць манаполіяй і мае супрацьвагу ў асобе значна мацней утрыманых або "рэжымных" інтэлектуалаў. Канкурэнцыя ў галіне культуры ніколі ня шкодзіла, і каб усялякая замежная дапамога для культуры забаранялася, не было-б ані ўсходнеславянскай праваслаўнай цывілізацыі, ані цывілізацыі будызму на Далёкім Усходзе, ані нават марксізму-ленінізму. Фактычна даклад абвяргае сам сябе, імкнучыся вызначыць дзейнасьць беларускіх інтэлектуалаў як вынік заходніх інвестыцыяў. У заключэньні праф. Т. Снайдар распавёў пра п'есу "Пігмаліён" Б. Шоў у кіеўскім тэатры, дзе доктар Хігінс размаўляў на ўкраінскай літаратурнай мове, а Ліза Дулітл—на "суржыку" (украінскай трасянцы). У антракце гледачы таксама размаўлялі па-ўкраінску, але пасьля п'есы на вуліцах Кіева было чуваць толькі расейскую гаворку. Літаратурная ўкраінская мова стала мовай эліты, а ня вуліцы, але ў кастрычніку-лістападзе 2004 году яна выйшла на вуліцы і апанавала іх. У Беларусі, дзе сытуацыя падобная на ўкраінскую, таксама можа ўзьнікнуць новы сынтэз, перасэнсаваньне ролі мовы.

Затым выступоўцы адказалі на пытаньні. Пасьля афіцыйнага заканчэньня ўдзельнікі з задавальненьнем паслухалі чытаньне вершаў беларускай паэткі Вальжыны Морт. Часткай культурнай праграмы былі дзьве п'есы Віцебскага нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Якуба Коласа 14 і 15 кастрычніка ў Цэнтры мастацтваў «Арсэнал» у Уотартаўне.

Асаблівая заслуга ў арганізацыі сымпозіюму належыць Курту Вулгайзару, Джэймсу Молінсану, Орса-Романо культурна-асьветніцкай фундацыі й Гарвардзкаму ўнівэрсытэту.

*Віталь ЗАЙКА*









НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

І. Ільчук ................$60
В. Махнач ..............50
У. Ракуць ...............50
Н. Дудар ................40
Х. Кажаневіч. . .анг. фун. 20
К. Акула ...............$30
А. Лістоўская ...........30
А. Данілюк ..............30
П. Сыантовіч ............30
І. Храпава ..............30
І. Чапля ................30
Л. Шыманец ..............30

Заміж кветак на магілу А. МОНІДА:

М. Маркевіч ............50

Заміж кветак на магілу В. МІЦКЕВІЧА:

І. Сурвілла ..............50
Н. Дудар ................20

Заміж кветак на магілу Ўладзімера ГІНЬКО:

Х. Кажаневіч. . .анг. фун. 20

Усім шчыры дзякуй!

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна: *Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by *Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
E-mail: hazetabielarus@att.net
Сусьветнае сеціва: www.bielarus.org
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэкламадаўца.